# Спроба рэформы беларускага правапісу. 1939—1940 гг.

*Друкуюцца артыкулы з газет «Літаратура і мастацтва» (дак. № 1) і «Звязда» (дак. № 2), матэрыялы нарады ў ЦК КП(б)Б, на якой удзельнічалі Я. Купала і Я. Колас (дак. № 3, 4), ліст АН БССР у ЦК КП(б)Б аб неабходнасці змен у беларускім правапісу (дак. № 5), пастанова Бюро ЦК КП(б)Б аб стварэнні камісіі па падрыхтоўцы праекта па гэтаму пытанню (дак. № 6).*

## № 1

Наспеўшае пытанне

У парадку абмеркавання

У № 45 «Звязда» змясціла справаздачную заметку аб выбарчым сходзе партыйнай арганізацыі Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР. У гэтай заметцы ёсць такі абзац: «У спрэчках гаварылі і аб такіх важных пытаннях, як мова і фальклор беларускага народа. Мы лічым няправільным, што асобныя пісьменнікі знаходзяцца яшчэ на паваду ў старых «мовазнаўцаў», топчуцца на месцы ў галіне далейшага развіцця і ўзбагачэння беларускай мовы, ачышчэння яе ад усяго наноснага і непатрэбнага. Нам незразумела, напрыклад, чаму такія словы, як «таржаство», «чэсць», упорна ігнаруюцца органам Саюза савецкіх пісьменнікаў — газетай «Літаратура і мастацтва».

Можна толькі пашкадаваць, што ў такім важным пытанні, як развіццё і ўзбагачэнне беларускай мовы, газета абмежавалася адной агульнай кароткай заўвагай, не паказаўшы канкрэтна і разгорнута свайго пункту гледжання. Нельга ж, сапраўды, зводзіць усё пытанне да прыкладу з двух выпадкова ўзятых слоў. Пытанні мовы, яе ўдакладнення, развіцця і ўзбагачэння хвалююць не толькі партарганізацыю ССПБ і ўсіх савецкіх пісьменнікаў, — гэта пытанне не ў меншай меры цікавіць шырокія колы савецкай грамадскасці, у тым ліку і работнікаў друку, якія — таксама, як і пісьменнікі — матэрыялам сваёй работы маюць мову і, аперыруючы ёю, тым самым уключаны ў працэс фарміравання яе.

Нам здаецца, ужо падыйшоў час грунтоўна аглядзець праробленую на моўным участку работу, прааналізаваць яе, вызначыць далейшы напрамак. Гэта таму, што мы навочна бачым шмат каштоўнага ў зробленым, але настолькі ж яўны і відавочны некаторыя памылкі. Час ужо ўзяцца за выпраўленне памылковага, каб спыніць паглыбленне і пашырэнне яго.

Работа па фарміраванню беларускай літаратурнай мовы за апошнія гады ішла па двух напрамках. Першы — ачышчэнне мовы ад усяго непатрэбнага, наноснага, другі — ўзбагачэнне мовы, пашырэнне яе слоўнага багацця, папаўненне тэрміналагічнага слоўніка.

У справе ачышчэння мовы работа грунтавалася на выдаленні непатрэбных і незразумелых шырокім масам народа архаізмаў, правінцыялізмаў і паланізмаў — усяго смецця, жывасілам прыцягнутага ў мову нацдэмамі, якія ставілі сваёй мэтай адрыў беларускага народа ад братняга яму рускага народа. Самае беглае азнаямленне з мовай літаратурных твораў, з мовай газет паказвае, што гэта работа ўжо блізка да свайго завяршэння. Нездарма ж паўстала і ў друку часткова абмяркоўвалася пытанне аб зменах у правапісе, які ў шмат якіх сваіх раздзелах супярэчыць набытым нормам жывой разгаворнай мовы.

Што да справы далейшага развіцця і ўзбагачэння мовы, дык тут яскрава адно: літаратурная мова арыентуецца на жывую народную мову, на багаты і шматфарбны фальклор, адсюль чэрпае словы, звароты, пашырае сінанімічнае багацце.

Як для пісьменнікаў, так і для работнікаў друку ясна і бясспрэчна тое палажэнне, што ў выпадках, калі нельга папоўніць слоўнік (у галіне палітычных разуменняў, дакладных навук і т.д.) за кошт наяўных у жывой беларускай мове слоў, — трэба ўзбагачаць беларускую мову пры дапамозе роднаснай і блізкай ёй, багатай і дасканала развітай рускай мовы. Тут зроблена таксама немала, але не знойдзены агульныя ўстаноўкі. Бадай, ці не гэта і выклікала заўвагу «Звязды» у згаданай намі заметцы.

І гэтую заўвагу мы лічым спрэчнай, не абгрунтаванай. Мы сцвярджаем: узбагачэнне літаратурнай мовы грунтуецца ў асноўным на аналізе слоўніка жывой мовы, на разглядзе так званых «слоўных гнёзд», газеты ж робяць гэта не заўсёды сур'ёзна, прадумана і абгрунтавана. У рабоце газет па ўзбагачэнню мовы ёсць шмат «накладных выдаткаў», якія цягнуць за сабою рад непаразуменняў, разбураюць слоўныя гнёзды, стыкаюць «лоб у лоб» розныя разуменні, пераблытваюць тэрміналогію.

У выніку стварылася такое становішча, якое атрымала пашыраную і слушную назву «чарговых моўных адкрыццяў». Да ліку іх адносяцца такія «шапкі» ў «Чырвонай змене», як: «Будзем працаваць на **блага**[1] народа»; да ліку іх адносяцца артыкулы «Піянера Беларусі» аб дрэнным авалоданні вучнямі беларускай мовай, прычым мова гэтых артыкулаў, як і ўсёй газеты, якраз спрыяе невуцтву; да ліку іх адносяцца радыёперадачы Беларускага радыёкамітэта, пабудаваныя на жахліва пакалечанай мове, прычым гэта не проста выпадковыя памылкі, а «прынцыповая лінія», бо яна амаль ніколькі не пахіснулася пасля справядлівай крытыкі ў друку. На газеты раўняецца рэдактура і штат стылістаў Беларускага дзяржвыдавецтва, якія з усяе сілы стараюцца нівеліраваць літаратурную мову, знішчыць усё яе сінанімічнае багацце, вытруціць з мовы ўсе яе фарбы, ператварыць яе ў штосьці шэрае і невыразнае.

На газеты, нарэшце, раўняецца школа, «на хаду» уносячы «папраўкі» у правапіс, «выбачліва» трактуючы мову літаратурных твораў, якія вывучаюць вучні.

Мы лічым, што зусім своечасовым будзе ва ўсю шырыню паставіць, абмеркаваць і вырашыць тыя спрэчныя пытанні, якія ёсць у справе афармлення і развіцця беларускай мовы. Час ліквідаваць розныя спрэчныя і беспадстаўныя «плыні» ў гэтай справе.

Мова нашых мастацкіх твораў і школьных падручнікаў, мова газет і радыёперадач павінна быць мовай адзінай, далейшае развіццё і ўзбагачэнне яе павінна ісці па агульнаму прадуманаму і навукова абгрунтаванаму рэчышчу, якое выключыць усякую магчымасць разнабою, блытаніны і шкоднага саматужніцтва.

Высоўваючы на абмеркаванне ўсе гэтыя пытанні, мы, для сцвярджэння нашай думкі, спынімся на радзе канкрэтных прыкладаў. У якасці матэрыялу мы бярэм мову газеты «Звязда». На яе раўняюцца ўсе нашы газеты. Усё, што ёсць у ёй карыснага і памылковага, аўтаматычна пераносіцца на старонкі іншых газет. Такім чынам, мова «Звязды» у асноўным характарызуе становішча нашай газетнай мовы.

Мы будзем гаварыць аб тым, што ёсць спрэчнага і памылковага ў мове «Звязды».

Агульнавядома тое, што словы ў мове размяшчаюцца своеасаблівымі гнёздамі, аб'яднанымі агульным коранем, сэнсавай нагрузкай. Механічнае ўнясенне ў мову якога-небудзь слова, блізкага па гучанню, але далёкага па сэнсу ад пэўнага слоўнага гнязда, неадхільна выклікае блытаніну ў сэнсе і значэнні раду слоў. Такое механічнае разбурэнне слоўных гнёзд вельмі часта заўважаецца на старонках «Звязды».

Прыводзім прыклады. Ёсць у беларускай мове такія словы, як **жабрацтва, нястачы.** Ігнаруючы іх, «Звязда» пачынае пісаць **нішчата.** Адсюль вынікае слова **нішчы** (у сэнсе жабрак). Можна запытацца: як жа цяпер разумець словы **знішчаць, знішчэнне**? Логіка падказвае — як **обеднять, обеднение.** Вось так пачынаецца блытаніна! Ёсць слова **нягоды**, «Звязда» пачынае пісаць **няўзгоды.** А як цяпер разумець слова **няўзгоднены?** Карыстаючыся словамі **ўлічваць, улічым**, «Звязда» ў той жа час ужывае слова **учот**. Чаму, калі так лёгка ствараецца і ў мове існуе слова **ўлік**?

Рашуча выжываючы слова **шмат** (яно заўсёды заменена словам **многа**), газета, аднак, піша **шматтыражка, шматлікі**. Увёўшы ва ўжыванне слова **таржаство**, газета не

змагла стварыць блізкае яму па кораню гняздо слоў і ўжывае адначасова словы **урачысты, урачыста**. Надаючы, відаць, асобнае значэнне слову таржаство і заўважаючы, што газета «Літаратура і мастацтва» не ўжывае яго (дарэчы, слова **чэсць** і вытворныя ад яго — **чэсны, пачэсны** «Літаратура і мастацтва» ужывае), «Звязда» ў той жа час старанна абмінае слова **трыумф**, якое можна знайсці ў партыйных дакументах і ў творах класікаў марксізма.

Няўменне адчуць рознасць сэнсу пры блізкасці гучання слоў у роднасных мовах відаць з такіх прыкладаў: рускае **свергли** даецца як **зверглі.** Але ж слоўца «зверглі» не з палітычнай галіны, а з... ветэрынарнай. Невядома чаму забыта слова **нізрынуць**, якое давала б магчымасць напісаць **нізрынулі**. І зразумела, і правільна. Або **веселие**. Забываюць пра існаванне беларускага **вяселле — свадьба** і пішуць: «вяселле народа прадаўжалася да позняй ночы». Сумны жарт! Не клапоцячыся аб пратакольнай дaслоўнасці (а яна часцей за ўсё і падводзіць), можна было б сказаць: «Народ весяліўся да позняй ночы». Рускае **богатырь** даецца як **багатыр**. Але ж беларускае **багатыр** гэта — **богач.** Слова **шествие** «Звязда» раней перакладала як **шествіе**, цяпер — **шэства**. Атрымалася нешта штучнае. Трэба было глянуць на народныя словы **нашэсце** і **ўшэсце**, тады знайшлося б слова **шэсце**.

Утварэнне слоў ад кораня мае пэўныя законы: корань не траціць свайго гучання, асновы. Чаму ж у «Звяздзе» ад слова **попел** утвараецца **пепельніца**?

У кожным нумары «Звязды» можна знайсці рад прыкладаў простага няведання жывой беларускай мовы, упартага ігнаравання агульнавядомых слоў. Кожны з маленства ведае слова **лялька (дзіцячая цацка),** але калі гэтая лялька становіцца атрыбутам тэатральнага паказу, дык паводле «Звязды» гэта будзе не лялькавы тэатр, а **кукальны.** Бяскрыўдная ягада **журавіна,** пра якую і песня жартлівая складзена (нават на грамафонную пласцінку запісана і па радыё часта выконваецца), на старонках «Звязды» чамусьці ператвараецца ў **клюкву.**

Так адно за адным, непрадумана і неапраўдана, выносіцца на старонкі «Звязды» цэлая чарада слоў, якімі падменьваюцца масавыя народныя і зразумелыя словы, ствараюцца непатрэбныя сінонімы, а ўрэшце авалоданне беларускай мовай робіцца справай надзвычай складанай, цяжкай і заблытанай. Так з'явіліся **зрэлы, зрэласць** (ёсць у народзе словы спелы, спеласць), **расткі** (парасткі), **здраўствуй** (добры дзень, добры вечар), **сазнанне** (свядомасць), **комната** (пакой), **чулкі** (панчохі), **бутылка** (бутэлька), **вывеска** (шыльда), **прадстаўленне** (уяўленне), **цяготы** (цяжар), **награда** (узнагарода), **качуюць** (вандруюць), **булыжная маставая** (брук), **натраўліваюць** (нацкоўваюць), **упітанасць** (укормленасць), **прымяніць** (ужыць), **паступак** (учынак). Так ствараюцца такія сказы, як: прыпадняты настрой, раскаленая топка, раскошныя нарады, мноства лішэнняў, безлашадныя сяляне, устанавілі плиткі, прыбягаюць да агітацыі, пабочны гук, адказваюць узросшым патрабаванням, ацяпліцельная сістэма, парадачны грамадзянін, любоў да гроба, ветхі домік, пашчолкванне прыбораў, свайныя работы, красачны расказ, у належным відзе, іграць са стрэльбай, шкляны завод, кожзавод.

Такая безуважлівасць да мовы, да слова няўхільна цягне за сабою прыкрую неахайнасць і ў пабудове сказаў, у той рабоце, якая называецца стылістыкай мовы. І тады чытач можа ўбачыць жахлівыя рэчы. Ён можа, напрыклад, прачытаць: «ён ляжаў у непрытомнасці і патрабаваў неадкладнай дапамогі». Цяжка беднаму чытачу дайсці, як можа **патрабаваць** (пэўна, ва ўвесь голас!) дапамогі **непрытомны** чалавек. Можна са старонак газеты даведацца, што «будаўнікі **ўпусцілі** (далоў?) шмат важных работ», што «трахома **распаўсюджана**». Газетнаму работніку і неўцям, што распаўсюджваць можна газеты, кнігі, тавары, а трахома — **пашыраецца**. Чытач чытае пра «урокі, якія **прыпаднесла** Чырвоная Армія». Хацелася сказаць **преподала**, а выйшла **преподнесла**... А гэта не зусім адно і тое.

Гэта «стылістыка» мовы дапускае і такія дубовыя сказы: «З боку асобных калгаснікаў і аднаасобнікаў мелі месца нядобрасумленныя адносіны да сацыялістычнай

уласнасці» (на звычайнай мове гэта было б сказана так «Асобныя калгаснікі і аднаасобнікі нядобрасумленна адносіліся да сацыялістычнай уласнасці»), альбо — «будучы заклапочаным пытаннем, ён прапанаваў» (у жыцці гавораць: «заклапочаны гэтым, ён прапанаваў»).

Гэта — стылістыка горшага тыпу канцылярыі. Ад яе ж ідзе і прынцыповае, заўсёднае **днямі**, замест **гэтымі днямі**, **надоечы**, не **так даўно** і г.д.

Дыскусія аб недакладнасцях сучаснага беларускага правапісу, не атрымаўшы пакуль свайго канкрэтнага завяршэння ў выглядзе новага выпраўленага правапісу, мела, аднак, тую папярэднюю карысць, што некаторыя яўна нягодныя правілы правапісу пачалі выпраўляцца проста ў практычнай рабоце. І таму можна было б толькі вітаць увядзенне «Звяздой» суфіксальнага «ір», агульнага для беларускай і рускай мовы і выжытага з правапісу нацдэмамі, каб штучна «парадніць» беларускую мову з польскай. «Звязда» пачала пісаць **дэманстрыравалі, дэкламіравалі** і да т.п. Гэта падхапілі газеты, часопісы, суфіксальнае «ір» паявілася і ў творах пісьменнікаў. Раптам «Звязда» амаль поўнасцю адмовілася ад ёй жа ўведзенага «ір» і цяпер яно трапляецца на старонках газеты вельмі рэдка і мае ўжо выгляд «памылкі друку».

Паспрабавала «Звязда» удакладніць скланенне назоўнікаў, але не прадумала справы да канца і можна цяпер чытаць: скарга — **скарг**, урна — **урнаў**. У якім жа выпадку правільна?

У артыкулах па пытанню папраўак і змен правапісу аднадушна адзначалася неабходнасць упарадкаваць напісанне прозвішчаў, — у гэтым раздзеле правапісу яскрава праявілася паскудная работа нацдэмаў, накіраваная на тое, каб падкрэсліць нацыянальную прыналежнасць, калі прозвішча аднагучна для рускага і беларуса, — маўляў, глядзі, гэта не беларус, а рускі. Наўрад, ці згадзіўся б хто на такую фармулёўку гэтага правіла: «рускія прозвішчы з канчаткам **ёв** пішуцца па-беларуску з канчаткам **эў**, прозвішчы з канчаткам **ов** пішуцца па-беларуску з канчаткам **эў** або **аў**, прозвішчы з канчаткам **ев** пішуцца па-беларуску з канчаткам **оў**». Смяхотнае мудрагельства — скажа кожны. Аднак... да гэтага «правіла» упарта вядзе практыка «Звязды». На яе старонках **Трубачев** ператвараецца ў **Трубачэў** (тут не хапіла ведання тае простае рэчы, што па-рускі гук **ё** ў друку зазвычай абазначаецца праз літару **е** без кропак над ёю, а гучыць блізка да **о**), **Булычов —** ў **Булычэў** (не толькі не здолелі як належыць прачытаць, а, відаць і на слых не ўлоўліваюць, хаця гэта прозвішча часта гучыць са сцэны), **Шульгов** — у **Шульгаў**, **Тимошков** — у **Цімошкаў**, **Кудрявцев** — у **Кудраўцоў**.

Не цяжка ўпэўніцца, што гучанне прозвішчаў ад такой аперацыі набывае нейкі падкрэслена-здзеклівы характар. А чаму б не пісаць так, як гучыць: Трубачоў, Булычоў, Цімашкоў, Кудраўцаў? Навошта «арыгінальнічаць»?

Прагнасць да выпраўленняў (па сутнасці — скажэнняў) даводзіць да таго, што прозвішчы з яскравым гучаннем кораня (ад пэўных рэчаў) таксама перакрыўляюцца, напрыклад, — Богацель, Трабушэўскі, Качэноўскі. Беларускае прозвішча Шаўчэнка, ператвараецца ў Шэўчанка. Саўчанка ў Саўчэнка. Дзеля чаго гэта робіцца?

Возьмем геаграфічныя назвы. Ім таксама не шанцуе, калі яны трапляюць у артыкулы «Звязды». Увесь час пісалася (як і гаворыца) Мазыр, мазырскі. Цяпер на адной і той жа старонцы можна прачытаць і так і інакш: Мозыр, мозырскі. Асіпавічы часам пішацца Асіповічы, Магілеў — Магілёў, Ашмяны — Ошмяны. У напісанні геаграфічных назваў заходніх абласцей БССР да гэтага часу не зжыта польская транскрыпцыя: Крулеўшчызна замест Крулеўшчына, Бяла замест Белая, Гарадзей замест Гарадзея, Мала Мыш замест Малая Мыш, Батэчкі замест Бацечкі і шмат іншых.

Настойліва прывіваецца напісанне «у Гродна», «у Маладзечна», «у Вільна» замест «у Гродне», «у Маладзечне», «у Вільні» як гэта вымаўляецца і як гэта трэба пісаць. Тут пэўна бралася пад увагу тое, што ў рускай транскрыпцыі гэтыя назвы не зменьваюцца. І якраз даведзена шкоднасць механічнага, непрадуманага пераймання правілаў. Справа ў тым, што па-руску гэтыя назвы маюць канчатак **о**, які не зменьваецца (так, як і ў назвах

Кирово, Тосно, Пулково і інш.). Але ж па-беларуску яны маюць канчатак **а** або **я** (Гродна, Маладзечна, Вільня), а назвы з такімі канчаткамі зменьваюцца і ў рускай транскрыпцыі (Вязьма — в Вязьме, Одесса — в Одессе, Ельня — в Ельне). Каго ж тут хацелі перамудрыць работнікі «Звязды»?

Не ўсё добра са скарочанымі словамі. Досыць аднаго прыкладу: пішацца гарком, але горвыканком, горсовет. Чаму ў адным выпадку **а**, а ў другім — **о**? Загадка…

*   *   *

Наколькі шкоднай з'яўляецца арыентацыя на старых «мовазнаўцаў», настолькі ж шкодным будзе грунтаваць работу на выпадковым саматужніцтве. Справа развіцця і ўзбагачэння беларускай мовы павінна весціся на сур'ёзнай, навуковай аснове. Мы лічым, што гэтай работай павінен кіраваць Інстытут літаратуры і мовы Акадэміі навук БССР. Пры ім павінна быць створана сталая камісія з удзелам не толькі навуковых работнікаў, але і практыкаў — пісьменнікаў, журналістаў, акцёраў, стылістаў выдавецтва, дыктараў Радыёкамітэта. Гэтая камісія павінна разглядаць усе спрэчныя пытанні, даваць па іх канчатковыя рашэнні. Яна ж павінна весці агляд усіх відаў друку, даваць свае аўтарытэтныя рэцэнзіі па мове розных выданняў.

Прадпасылкай для гэтай вялікай і адказнай работы павінна быць ажыўленне ўсей работы Інстытута. Частка яго работнікаў у артыкулах па пытанню правапісу, імкнучыся даць перспектыву руху наперад, выказала, аднак, рад памылковых думак.

Неабходна ў аснову ўсёй работы па мове пакласці ясныя і дакладныя ўказанні партыі і правадыра народаў таварыша Сталіна.

← *Літаратура і мастацтва. 1940. 11 сакавіка. № 8.*

---

[1] *Тут і далей выдзелена ў тэксце.*

**№ 2**

Нікчэмныя патугі

(Па поваду артыкула газеты «Літаратура і мастацтва» — «Наспеўшае пытанне»)

У нашай газеце, у № 45, была змешчана заметка аб справаздачна-выбарным сходзе партарганізацыі Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР. У заметцы ёсць такое месца: «У спрэчках гаварылі і аб такіх важных пытаннях, як мова і фальклор беларускага народа. Мы лічым няправільным, што асобныя пісьменнікі знаходзяцца яшчэ на паваду ў старых "мовазнаўцаў", топчуцца на месцы ў галіне далейшага развіцця і ўзбагачэння беларускай мовы, ачышчэння яе ад усяго наноснага і непатрэбнага. Нам незразумела, напрыклад, чаму такія словы, як "таржаство", "чэсць", упорна ігнарыруюцца органам Саюза савецкіх пісьменнікаў — газетай "Літаратура і мастацтва"».

Гэта зусім правільная заўвага чамусьці не па густу прышлася некаторым асобам, якія маюць свой уплыў на газету «Літаратура і мастацтва» і думаюць, што толькі яны адны могуць павучаць усіх і ўся, асабліва тады, калі гэта датычыць беларускай літаратурнай мовы. У газеце «Літаратура і мастацтва» № 8 змешчаны артыкул пад загалоўкам «Наспеўшае пытанне», у якім сказана: «І гэтую заўвагу (справа ідзе аб нашай вышэйпрыведзенай заўвазе. — Рэд.) мы лічым спрэчнай, неабгрунтаванай». Невядомы аўтар артыкула піша: «Мы сцвярджаем: узбагачэнне літаратурнай мовы грунтуецца ў

асноўным на аналізе слоўніка жывой мовы, на разглядзе так званых «слоўных гнёзд», газеты ж робяць гэта не заўсёды сур'ёзна, прадумана і абгрунтавана. У рабоце газет па ўзбагачэнню мовы ёсць шмат «накладных выдаткаў», якія цягнуць за сабой рад непаразуменняў, разбураюць слоўныя гнёзды, стыкаюць «лоб у лоб» розныя разуменні, пераблытваюць тэрміналогію.

У выніку стварылася такое становішча, якое атрымала пашыраную і слушную назву «чарговых моўных адкрыццяў».

Бачыце, аўтар супраць разбурэння «слоўных гнёзд» і супраць «чарговых моўных адкрыццяў». Прасцей кажучы: ён прапануе не смець узбагачаць мову новымі словамі. Асабліва яму становіцца млосна тады, калі беларуская мова ўзбагачаецца рускімі або блізкімі да рускай мовы словамі, напрыклад, такімі, як «таржаство», «чэсць», «многа», «зверглі», «абнішчанне» і інш. А каб у гэтым яго ніхто не западозрыў, аўтар на ўсякі выпадак піша: «Як для пісьменнікаў, так і для работнікаў ясна і бясспрэчна тое палажэнне, што ў выпадках, калі нельга папоўніць слоўнік (у галіне палітычных разуменняў, дакладных навук і т.д.) за кошт наяўных у жывой беларускай мове слоў, — трэба ўзбагачаць беларускую мову пры дапамозе роднаснай і блізкай ёй, багатай і дасканала развітай рускай мовы».

У чым жа справа? Хто перашкаджае аўтару і газеце «Літаратура і мастацтва» ўзбагачаць мову пры дапамозе роднаснай і блізкай, багатай і дасканала развітай рускай мовы? І чаму, пытаем мы, у такім выпадку нашу заўвагу аўтар лічыць «спрэчнай і неабгрунтаванай»? З-за чаго ж сыр-бор загарэўся? Відавочна, што аўтару спатрэбілася зусім іншае. Ён прабуе даказаць, што ўвядзеннем слоў «таржаство», «чэсць», «многа», «зверглі», «абнішчанне» і інш. наш друк разбурае «слоўныя гнёзды». Вось куды загнуў аўтар.

Да ліку «разбуральнікаў» так званых «слоўных гнёзд» аўтар адносіць увесь беларускі друк, Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі, Беларускі радыёкамітэт, школы. І па гэтых «разбуральніках» газета «Літаратура і мастацтва» адкрывае агонь. Юнацкую газету «Чырвоная змена» і дзіцячую — «Піонер Беларусі» «Літаратура і мастацтва» абвяшчае непісьменнымі і сцвярджае, што іх артыкулы спрыяюць невуцтву. Расправіўшыся з двума масавымі беларускімі газетамі, «Літаратура і мастацтва» бярэцца за Беларускі радыёкамітэт. Газета піша: «радыёперадачы Беларускага радыёкамітэта, пабудаваныя на жахліва пакалечанай мове, прычым гэта не проста выпадковыя памылкі, а «прынцыповая лінія», бо яна амаль ніколі не пахіснулася пасля справядлівай крытыкі ў друку». Такім развязным тонам газета «Літаратура і мастацтва» крытыкуе радыёперадачы. Свой артыкул, змешчаны ў газеце «Літаратура і мастацтва» ад 3 лютага г.г., які мае памылкі нават палітычнага характару, газета выдае за «справядлівую крытыку ў друку». Прыходзіцца здзіўляцца майстэрству аўтара пераварачваць усё навыварат.

Расправіўшыся з Радыёкамітэтам, аўтар артыкула бярэцца за Дзяржаўнае выдавецтва. Ён піша: «На газеты раўняецца рэдактура і штат стылістаў Беларускага дзяржвыдавецтва, якія з усёй сілы стараюцца ніверліраваць літаратурную мову, знішчыць усё яе стылістычнае багацце, вытруціць з мовы ўсе яе фарбы,ператварыць яе ў штосьці шэрае і невыразнае».

Такая, з дазволу сказаць, «крытыка» вельмі падобна на паклёп. Усім вядома, што пасля выгнання з Дзяржаўнага выдавецтва ворагаў, якія апраналіся ў тогу мовазнаўцаў, тут зараз працуюць дзесяткі партыйных і непартыйных бальшавікоў, якія ўжо многа зрабілі і робяць для ўзбагачэння літаратурнай беларускай мовы. Гэтыя таварышы бязлітасна выкарчоўваюць нацдэмаўскі хлам з літаратуры. Але ўсё гэта газета «Літаратура і мастацтва» не бярэ пад увагу. Яна бачыць ва ўсіх рэдактарах і стылістах выдавецтва людзей, якія «стараюцца ніверліраваць літаратурную мову, знішчыць усё яе стылістычнае багацце». Вельмі падазроная крытыка!

Аддаўшы «неабходнае» Дзяржаўнаму выдавецтву, Радыёкамітэту і беларускаму друку, «Літаратура і мастацтва» бярэцца за нашы школы. У тым жа артыкуле пішацца:

«На газеты, нарэшце, раўняецца школа, «на хаду» уносячы «папраўкі» у правапіс, «выбачліва» трактуючы мову літаратурных твораў, якія вывучаюць вучні».

Пакончыўшы са школамі, газета «Літаратура і мастацтва» бярэцца за Інстытут літаратуры і мовы Акадэміі навук БССР. Па яго адрасу яна піша: «Частка яго работнікаў у артыкулах па пытанню правапісу, імкнучыся даць перспектыву руху наперад, выказала, аднак, рад памылковых думак».

Ітак, нейкі аўтар і газета «Літаратура і мастацтва» устанавілі, што ўсе, хто піша на беларускай мове, — увесь друк, школы, Радыёкамітэт, Дзяржаўнае выдавецтва «нівеліруюць» мову. І толькі яна адна — газета «Літаратура і мастацтва» — стаіць на літаратурным Парнасе і абараняе ад разбуральнікаў слоўныя гнёзды. Але па ёй ніхто не раўняецца. Сапраўды крыўдна!

Калі б газета «Літаратура і мастацтва» — орган Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР — сапраўды хацела дапамагчы Дзяржаўнаму выдавецтву, нашаму друку, школам, Радыёкамітэту і, урэшце, Акадэміі навук БССР, ёй зусім для гэтага не было патрэбы ахайваць усіх і ўся. У рабоце гэтых арганізацый бываюць памылкі, для выпраўлення якіх у нас ёсць метад бальшавіцкай крытыкі. Газета ж прадставіла свае старонкі аўтару, «крытыка» якога нічога агульнага не мае з бальшавіцкай крытыкай.

Што датычыць рэдакцыі газеты «Звязда», то мы прызнаем, што ў газеце калі-небудзь па віне таго ці іншага супрацоўніка дапускаюцца памылкі і скажэнні асобных слоў, як, напрыклад, адзін раз пішацца «Мозыр», а другі «Мазыр», або «Асіпавічы» і «Асіповічы». Але гэта зусім не тое, што хацеў сказаць аўтар у сваім артыкуле «Наспеўшае пытанне».

Для падмацавання сваіх шкодных палажэнняў аўтар прыводзіць спецыяльна выпісаныя ім памылкі друку. Нягодны метад! Тут не дапаможа аўтару нават і знойдзеная ім аднойчы ў друку «клюква».

Мы ўсяляк віталі б добрасумленную крытыку газеты «Літаратура і мастацтва» па пытаннях мовы. Але дзе там да добрасумленнай крытыкі. «Літаратура і мастацтва» абвінавачвае рэдакцыю газеты «Звязда», што яна ўжывае такія словы, як «многа», «у Вільна». А ў тым жа самым нумары, дзе змешчаны вышэйназваны артыкул, сама газета «Літаратура і мастацтва» піша гэтыя ж словы: «многа», «многія», «у Вільна». Каго ж тут хоча перамудрыць аўтар?

Дарэчы, аб слове «многа». Гэта слова «многа» замест «шмат» вельмі часта можна знайсці ў творчасці класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа. Калі б аўтар быў добрасумленным, дык ён у творы «Вялікаму Сталіну ад беларускага народа» знайшоў бы такі радок: «Лясоў у нас многа, і мы збудавалі». Паўтараем, гэта слова можна часта знайсці ў творах нашых паэтаў.

Аўтар артыкула «Наспеўшае пытанне» абвінавачвае наш друк у разбурэнні слоўных гнёзд яшчэ і таму, што друк піша «зверглі». Аўтару хацелася б пісаць «нізрынулі». Калі б ён зноў жа праявіў добрасумленнасць і заглянуў у «Кароткі курс гісторыі ВКП(б)», перакладзены на беларускую мову і адрэдагаваны, на наш погляд, лепшымі мовазнаўцамі, ён бы там знайшоў такія словы «зверглі цара», «зверглі царскіх чыноўнікаў» і т.д.

Аўтар абвінавачвае друк у тым, што ён піша такія словы, як «нішчата», «нішчы».У тым жа самым «Кароткім курсе гісторыі ВКП(б)» на 6-й старонцы мы раім прачытаць аўтару і супрацоўнікам газеты «Літаратура і мастацтва» такія радкі: «Астаткі прыгонніцкай гаспадаркі, велізарныя падаці і выкупныя плацяжы памешчыкам, якія нярэдка перавышалі даходнасць сялянскай гаспадаркі, выклікалі разбурэнне, абнішчанне сялянскіх мас…». Іменна абнішчанне, а не «ажабрачванне», як прапануе аўтар.

Слова «таржаство» аўтар і газета «Літаратура і мастацтва» ўпарта ігнаруюць і замест яго прапануюць пісаць «урачыстасць». А ўвесь наш друк ужывае і тое, і другое слова. І правільна робіць. Слова «урачыстасць» цалкам падыходзіць, калі мы кажам: «урачыстасць у калгасе», «на ўрачыстым пасяджэнні», і зусім будзе няправільным, калі

гэтым словам абазначыць такое паняцце, як таржаство мірнай палітыкі СССР, як таржаство ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі. Ніяк не скажаш: урачыстасць мірнай палітыкі. Газета «Літаратура і мастацтва» ўжывае ў некаторых выпадках замест «таржаство» слова «трыумф». Лепш лацінскае «трыумф», чым славянскае «таржаство». Якое мудрагельства!

Слова «чэсць» аўтар таксама не пакідае ў спакоі. А мы прапануем пісаць і «чэсць», і «гонар». «Гонар» у тых выпадках, калі справа ідзе аб такіх паняццях, як «гордость». Аўтар баіцца і такога слова, як «багатыр». Яму яно чамусьці нагадвае «богач». Якая нікчэмная патуга выкінуць з беларускай мовы роднае і ўсім зразумелае слова!

Ітак, нейкі аўтар і газета «Літаратура і мастацтва» супраць ужывання новых слоў. А вось Янка Купала і Якуб Колас, мяркуючы па іх творчасці, не баяцца ўжывання новых слоў. Калі б супрацоўнікі газеты «Літаратура і мастацтва» не паленаваліся заглянуць у творы гэтых класікаў і лепшых носьбітаў жывой, разгаворнай беларускай мовы, яны б там знайшлі многа «моўных адкрыццяў». У творчасці Янкі Купалы вельмі часта ўжываюцца такія словы, як «абычай», «знамён», «труднай», «аковы», «багатыр». У Якуба Коласа мы чытаем такія радкі: «Прывет вам, племя маладое, зямель савецкіх яснацвет». У яго ж чытаем такія словы як «гнёт», «аковы». У абодвух паэтаў мы знаходзім такія словы як «граніца», «блеск», «бура» (замест навальніца) і т.д.

Няўжо газета «Літаратура і мастацтва» лічыць Янку Купалу і Якуба Коласа разбуральнікамі слоўных гнёзд?

Скажам больш. У Янкі Купалы, напрыклад, мы знаходзім такія словы, як «пабеда» («Вялікая ж наша працоўных сям'я ўжо кліча да новых геройскіх пабед»).

І гэта не выпадкова. І Янка Купала, і Якуб Колас, як носьбіты жывой, разгаворнай беларускай мовы, як паэты, якія глядзяць уперад, а не назад, смела ўводзяць новыя сінонімы. Калі аўтар артыкула, змешчанага ў газеце «Літаратура і мастацтва», робіць спробу нівеліраваць мову і абмежаваць, па сутнасці, абядніць яе і вытруціць іменна тое, што блізкае і роднае з рускай мовай, дык Янка Купала і Якуб Колас паступаюць наадварот.

Ці ж цяпер не відаць, што разважанні аўтара аб ўзбагачэнні беларускай мовы за кошт роднаснай рускай мовы з'яўляюцца толькі заслонай, за якой ён на [самой] справе робіць патугі вытравіць з разгаворнай і літаратурнай беларускай мовы многія сінонімы.

Яшчэ адзін прыклад таго, як беларуская народная мова развіваецца і ідзе наперад. Усім памятны вялікія падзеі 17 верасня 1939 г. Вызвалены з-пад панскага ярма народ Заходняй Беларусі вырашаў свій лёс. Вуснамі свайго Народнага сабрання ён абвясціў савецкую ўладу, нацыяналізацыю прамысловасці і банкаў, канфіскацыю памешчыцкіх зямель з перадачай іх працоўнаму сялянству і з'яднанне з Савецкай Беларуссю ў саставе вялікага Савецкага Саюза. Іменна Народнае сабранне, а не «рада» і не «сход». Словы «Народнае сабранне» сталі блізкімі і дарагімі кожнаму працоўнаму нашай краіны, і ў той жа час гэтыя словы былі самымі нелюбімымі для ворагаў беларускага народа. Няўжо і гэты факт нейкі аўтар і газета «Літаратура і мастацтва» лічаць разбурэннем слоўных гнёзд?

Нам вядома, што некаторыя супрацоўнікі газеты «Літаратура і мастацтва» зрабілі няўдалую спробу назваць Народнае сабранне народным сходам. Але з гэтага нічога не атрымалася. І зусім зразумела. Можна сказаць: сход супрацоўнікаў газеты «Літаратура і мастацтва», але ніяк нельга назваць сходам Народнае сабранне, якое прызвана рашыць лёс народа. Ітак, наперакор некаторым «мовазнаўцам», нарадзіліся новыя словы, абазначаючыя новыя, вялікія паняцці.

Гэты і многія іншыя прыклады ўвядзення класікамі беларускай літаратуры Янкам Купалам і Якубам Коласам новых слоў сведчаць толькі аб тым, што сучасная беларуская мова дасягнула вялікай культуры ў сваім развіцці. І зусім відавочна, што іменна ў гэтым адчуваецца кроўная сувязь і блізасць беларускай мовы да мовы брацкага нам вялікага рускага народа. Гэтую кроўную сувязь, як вядома, прабавалі зацямніць прэзрэнныя

буржуазныя нацыяналісты, якія імкнуліся стварыць штучны бар'ер паміж мовамі двух брацкіх народаў.

Гэта, як відаць, не зразумелі некаторыя асобы, якія гаспадарнічаюць у газеце «Літаратура і мастацтва», як у сваім уласным доме. Бо нічым іншым нельга аб'ясніць, чаму газета так ахвотна прадстаўляе свае старонкі гэтым «мовазнаўцам», якія так заядла выступаюць супраць зразумелых, блізкіх і дарагіх слоў у беларускай сучаснай мове і са старонак газеты «Літаратура і мастацтва» ахайваюць наш друк, Дзяржаўнае выдавецтва і ўсіх тых, хто мысліць не так, як гэтыя асобы.

Ва ўмовах савецкай улады, пры брацкай падтрымцы вялікага рускага народа, наша рэспубліка — у мінулым адсталая нацыянальная акраіна — у найкарацейшы гістарычны тэрмін стварыла ў сябе сацыялістычную эканоміку і сацыялістычную культуру. Перад з'яднаным беларускім народам адкрываюцца велічныя перспектывы. Наша літаратурная мова цяпер яшчэ больш будзе ўзбагачацца за кошт жывой разгаворнай мовы з'яднанага народа і за кошт блізкай і роднаснай нам мовы вялікага брацкага рускага народа. Агульнавядома, што развіццё новай агульначалавечай, сацыялістычнай па зместу, пралетарскай культуры нарадзіла і новыя нацыянальныя яе формы. Таварыш Сталін тэарэтычна абгрунтаваў магчымасць і неабходнасць развіцця нацыянальных па форме, сацыялістычных па зместу культур ва ўмовах савецкага ладу.

«Мы будуем пралетарскую культуру, — гаварыў таварыш Сталін. — Гэта зусім верна. Але верна таксама і тое, што пралетарская культура, сацыялістычная па свайму зместу, прымае розныя формы і спосабы выражэння ў розных народаў, уцягнутых у сацыялістычнае будаўніцтва, у залежнасці ад адрознення мовы, быту і т.д. Пралетарская па свайму зместу, нацыянальная па форме, – такая тая агульначалавечая культура, да якой ідзе сацыялізм. Пралетарская культура не адмяняе нацыянальнай культуры, а дае ёй змест. І, наадварот, нацыянальная культура не адмяняе пралетарскай культуры, а дае ёй форму». («Марксізм і нацыянальна-каланіяльнае пытанне», Дзяржпалітвыдавецтва. 1939 г.)

Вядома, што толькі сацыялізм падрыхтоўвае ўмовы для сцірання грані паміж нацыянальнасцямі, для стварэння ў будучым адзінай, агульначалавечай не толькі па зместу, але і па форме сацыялістычнай культуры. Асноўныя контуры гэтага працэсу геніяльна распрацаваны ў вучэнні Леніна і Сталіна па нацыянальнаму пытанню.

«Росквіт нацыянальных па форме і сацыялістычных па зместу культур ва ўмовах дыктатуры пралетарыяту ў адной краіне, — гаварыў таварыш Сталін, — для зліцця іх у адну агульную сацыялістычную (і па форме, і па зместу) культуру з адной агульнай мовай, калі пралетарыят пераможа ва ўсім свеце і сацыялізм увойдзе ў быт, — у гэтым іменна і заключаецца дыялектычнасць ленінскай пастаноўкі пытання аб нацыянальнай культуры». (Пытанні ленінізма, стар. 426—427, 10-е выданне).

Беларуская мова, як і ўсякая мова, ва ўмовах сацыялізма дасягнула высокага развіцця. Яна развіваецца і будзе развівацца ў напрамку, вызначаным у геніяльным вучэнні Леніна—Сталіна. І ніякім пабочным сілам не звярнуць яе развіцця з гэтага правільнага шляху. Усё гэта з'яўляецца ісцінай. Але, на вялікі жаль, гэтага не разумеюць некаторыя супрацоўнікі газеты «Літаратура і мастацтва» — органа Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР, якая заклікана быць у пытаннях мовы і культуры на перадавых пазіцыях. Газета ж прадстаўляе сваі старонкі тым, хто хоча цягнуць развіццё нашай мовы і культуры не наперад, а назад. Нікчэмныя патугі!

І нарэшце, ці трэба абмяркоўваць пытанні развіцця мовы? Вядома, трэба. Але зусім не так, як гэта зрабіла газета «Літаратура і мастацтва». Не ахайванне, а таварыская крытыка недахопаў дапаможа нам яшчэ больш узбагаціць нашу мову і ачысціць яе ад незразумелых народу архаізмаў, паланізмаў і правінцыялізмаў. Таварыская крытыка дапаможа яшчэ больш узбагаціць беларускую мову за кошт блізкай рускай мовы.

*Звязда. 1940. 21 сакавіка. № 66.*

## № 3

Список товарищей, вызванных на совещание в ЦК КП(б)Б
по вопросу реформы белорусского правописания

Союза советских писателей:

| | | | |
|---|---|---|---|
| √[1] | 1. | Климкович М.Н. | |
| — | 2. | Лыньков М.Т. | Москва[2] |
| — | 3. | Чорный К. | болен[3] |
| √ | 4. | Кучар А. | |
| √ | 5. | Гурский И.Д. | |
| √ | 6. | Бровко П. | |
| √ | 7. | Колас Я. | |
| √ | 8. | Мурашка Г. | |
| √ | 9. | Березкин Г. | |
| √ | 10. | Бядуля З. | |
| √ | 11. | Вольский В. | |
| √ | 12. | Купала Я. | |
| — | 13. | Глебка П. | в отъезде[4] |
| √ | 14. | Лыньков Г.Т. | |
| √ | 15. | Шинклер Ф. | |
| | 16. | Кулешов А. | |
| | 17. | Последович | |
| √ | 18. | Шараховский Я. | |
| | 19. | Модель М. | |
| √ | 20. | Рутько | |

Института языка и литературы

| | | | |
|---|---|---|---|
| √ | 1. | Барысенка В.В.[5] | директор |
| √ | 2. | Гурский К.И. | ученый секретарь |
| √ | 3. | Ломтев Т.П. | проф. |
| √ | 4. | Шкляр Г.З. | ст. научный работник |
| √ | 5. | Рохкинд С.Л. | ст. научный работник |

Государственного издательства при СНК БССР

| | | | |
|---|---|---|---|
| √ | 1. | Казюк Н.В. | главный редактор |
| √ | 2. | Цирлин З.Л. | ст. редактор |
| √ | 3. | Диоминский Т.К. | —»— |
| √ | 4. | Коновалов Г.В. | —»— |
| | 5. | Краульев И.В. | ст. редактор |
| √ | 6. | Подберезский П.С. | —»— |
| √ | 7. | Голодко Ф.П. | редактор |
| √ | 8. | Палей Ф.Д. | стильредактор |
| √ | 9. | Соколовская О.И. | —»— |
| √ | 10. | Зубко О.А. | —»— |
| √ | 11. | Фридлянд Б.М. | —»— |

| | | | |
|---|---|---|---|
| √ | 12. | Гурин Н.К. | —»— |
| √ | 13. | Костюкович Л.М. | корректор |
| √ | 14. | Копелевич Ф.М. | стилист |
| | 15. | Александрович Х.М. | |
| √ | 16. | Репинский[6] | |

Редакции газеты «Звязда»

| | | |
|---|---|---|
| √ | 1. | Ковалев |
| √ | 2. | Хадкевич |
| | 3. | Таран |
| √ | 4. | Добравольский |
| | 5. | Красовский |
| √ | 6. | Клебанов |
| | 7. | Шляфер |
| √ | 8. | Балашков[7] |
| √ | 9. | Галкин |
| √ | 10. | Фрадин[8] |

Преподаватели белорусского языка

| | | | |
|---|---|---|---|
| | 1. | Шиманский | 33 средняя школа |
| √ | 2. | Дубровский | 15 —»— |
| √ | 3. | Шахотько | 44 ж.д. средняя школа |
| √ | 4. | Рулько | 21 средняя школа |
| | 5. | Бейненсон | 1 средняя школа |
| √ | 6. | Саламаха | 12 средняя школа |
| √ | 7. | Белевич | 25 средняя школа |
| | 8. | Ясюнас | 31 средняя школа |
| √ | 9. | Колубович | Наркомпрос БССР |
| √ | 10. | Гарачун | —»— |
| √ | 11. | Севернева | —»— |
| | 12. | Саломеник | НИИ школ НКП БССР |
| √ | 13. | Протосевич | Минское педучилище |
| √ | 14. | Пигулевская | Минское педучилище |
| | 15. | Евсеева | Минский педкабинет |
| √ | 16. | Севостьянова | 32 средняя школа |
| √ | 17. | Кахановский | |
| | 18. | | |

[1] *Тут і далей перад нумарамі паметы алоўкам.*

[2] ~~*Памета алоўкам*~~ Маcква. дапісана алоўкам.

[3] ~~*Памета алоўкам*~~ болен. дапісана алоўкам.

[4] ~~*Памета алоўкам*~~ в отъезде. дапісана алоўкам.

[5] *Так у тэксце.*

[6] *Нумар і прозвішча дапісаны алоўкам.*

[7] *Выпраўлена алоўкам з* Балашкевич.

[8] *Нумар і прозвішча дапісаны алоўкам.*

**№ 4**

Стенограмма
совещания по вопросу о поправках и уточнениях в белорусском правописании

28 марта 1940 г. г. Минск

Председатель тов. Малин.

МАЛИН. Товарищи, перед ЦК партии поднят вопрос о принятии решения по внесению поправок и уточнений в белорусское правописание. Поднят вопрос Академией наук БССР. Этот вопрос поднимается на протяжении известного времени и в нашей печати.

ЦК партии считает необходимым и целесообразным рассмотреть этот вопрос. Но для рассмотрения его мы решили еще собрать вас, посоветоваться с вами и целый ряд моментов еще дополнительно вырешить, послушать ваше мнение.

В основе объяснения для постановки вопроса о внесении поправок и уточнений в белорусское правописание лежат следующие моменты: Академия наук БССР считает, что существующее белорусское правописание запутано в целом ряде моментов и не соответствует живому произношению.

Далее, что в целом ряде правил правописание вносит необоснованную живым языком разницу в написании одних и тех же слов по-русски и по-белорусски.

Далее, что искусственно и необоснованно живым произношением белорусского языка и написание слов иностранного происхождения. Выдвигается и такое мнение, что запутано правописание собственных имен, фамилий, географических названий и целый ряд других моментов.

Вот в связи с тем, что тут очень много таких больших вопросов, которые следует очень тщательно взвесить и выяснить и для уточнения и большей ясности в отдельных вопросах, в частности, в положении, которое выдвигает Академия наук БССР, мы и решили пригласить вас и по этому вопросу послушать ваши высказывания, мнения, предложения, в каком направлении наиболее правильно нужно искать решение вопроса. Поэтому я приглашаю товарищей, желающих по этому поводу высказать свои соображения, мысли, предложения, выступить.

КЛИМКОВИЧ. Надо послушать Академию наук.

ГУРСКИЙ. Мне кажется, товарищи, что целый ряд высказываний в печати, развернувшаяся дискуссия, а также всевозможные собрания и совещания, они достаточно показали необходимость внесения поправок и уточнений в белорусское правописание, и я не думаю на этом вопросе останавливаться, не думаю, что со стороны совещания постановка этого вопроса найдет какие-либо возражения. О том, что правописание не на высоте требований, мы не сомневаемся все потому, что каждый день на практике это чувствуется в работе школ, в работе наших издательских учреждений и всех грамотных людей.

Пороков правописания много, главные из них — это, я бы сказал, отсутствие принципиальной выдержанности в системе всего правописания. Правописание не придерживается обычно принятой для построения орфографической системы нормы. Мы здесь имеем очень большое место со стороны фонетических принципов, принципов, наиболее полно отражающих произношение в языке. Но эти принципы оказываются нарушенными в целом ряде мест, совершенно необоснованно и уже вопреки самим себе.

Часто любят высказываться товарищи, что наше белорусское правописание так хорошо, что оно наиболее близко к произношению, что в нем мало такой традиционности, которая бы расходилась с произношением. Но если всмотреться в целый ряд моментов, то можно убедиться, что не только расходится с произношением, но в целом ряде мест оно искусственно и необоснованно отрывает письмо от языка.

Я позволю себе сказать пару слов по вопросу отношения письма и языка вообще.

Правописание — это есть графическое изображение того, что мы слышим в устной речи. Как же стоит вопрос, на сколько возможно соответствие между устной речью и графическим изображением. По этому поводу есть работы солидных русских ученых, нам есть у кого учиться. Дело ясное, что мы не можем добиться такого положения, чтобы идеально совпадало письмо и язык. Звук, который мы имеем в живом языке и буквы, которые изображают их, не одинаковы, не адекватны. Буквы изображают только типичные звуковые элементы, а в языке эти типы лавируются на всевозможные лады. Если вы возьмете звук «а», вы можете встретить «а» наиболее типичное, можете встретить «а» более близкое к «о». На письме же есть только один вид этого звука, в одной букве. Ясно, что мы не можем ставить себе задачу прямого следования слепому принципу. Если мы будем улавливать то, что слышим, в конце концов нельзя будет узнать слово, когда оно будет написано. Следовательно, мы должны избрать вариант произношения, что действительно есть наиболее типичное в языке. А у нас в правописании есть момент, когда написанное не находит отражения в живом языке.

Правописание также должно быть легкое с точки зрения усвоения. У нас ставится задача, и не только ставится, а осуществлена задача — сделать грамотность и науку достоянием масс. Отсюда надо и приблизить к массам и дать им возможность владеть письмом. И всякого искусственного надо избежать решительным образом.

У нас в БССР мы изучаем два языка: есть много школ русских, которые изучают белорусский язык и наоборот — есть много белорусских школ, которые изучают русский язык. И любой гражданин нашей республики обычно владеет двумя языками. Это то же имеет некоторое отражение на характере нашего правописания. Дело в том, что эти два языка очень близки и родственны и мы имеем в ряде случаев, когда слова не отличаются. Если у нас будет разница, это будет несомненно искусственно мешать, а такая разница у нас есть.

В этот момент мы учитывали, когда обсуждали этот вопрос у нас в Академии наук. Учитывали этот момент и тогда, когда разработали проект. Мы могли здесь пойти по линии решительных изменений в правописании. Мы могли пойти и по линии уточнения и поправок.

Что мешает идти по линии изменения? Это то, что имеются уже некоторые навыки в письме и с ними приходится считаться. На примерах русского правописания мы видим, сколько считаются с традициями письма, потому что это принято, усвоено и т.д.

Мы, еще раз подчеркиваю, стали на путь только некоторых поправок и выбрасывания того, что не находит оправдания.

Я перехожу к изложению проекта. Проект этот мы год тому назад опубликовали в газете «Звязда»[1], и вокруг этого проекта развернулись даже кое-где споры и разговоры. Проект, о котором я хочу сообщить, мы успели обсудить у нас в Институте языка Академии наук два раза. Кроме этого, этот проект мы разослали на места — в города и районы и попросили его обсудить. Целый ряд городов и районов обсудили этот проект и прислали нам свои замечания. Должен сказать, что то, что мы выдвинули, в основном принимается. Я видел замечания представителей Союза писателей в форме рецензии и нахожу, что там отнеслись положительно к нашему проекту.

Есть целый ряд спорных моментов. Почему есть спорные моменты, потому что ряд вопросов можно решать по-разному, но я думаю, что надо подходить к этому вопросу с точки зрения целесообразности.

МАЛИН. С точки зрения научной обоснованности.

[ГУРСКИЙ]. Я это имею в виду. Какие изменения мы предлагаем по проекту? Во-первых, нам кажется, что усложняет правописание такой момент, что по существующим правилам пишется «я» вместо этимологического «е», если не падает ударение. Целый ряд таких правил близится к ...[2], потому что момент аканья имеет место в белорусском языке больше чем в других. Это правило на практике не весьма благоприятно. Во-первых, оно

усложняет дело; во-вторых, что же надо держать в поле зрения ударения? Вот слово «селянін» и «сялянін». Казалось бы одно и то же слово, а надо держать ухо и прислушиваться к ударению. В одном случае пишется «е», а в другом «я». Или возьмем слово «вяду» и слово «выведу». Мы прибавили только приставку «вы» и уже в этом случае пишется «е». Этот момент тоже тяжелый, потому что нужно всегда помнить об ударении.

Кроме того, в моменте письма играет большое значение ассоциация или привычка. У нас развита зрительная память, которая сохраняет то или иное слово. А тут нельзя составить слово в памяти, потому что корень меняется и нет единого зрительного образа корня слова. Значит, опять трудности.

В белорусском языке произношение звука не одинаковое. Следует считаться с наличием разного говора в языке. Если определенная масса говорит по-своему, то этого никак нельзя не учитывать, нельзя не учитывать этих традиций, когда мы составляем правописание. И вот в русском языке все пишется через «о». Чем это обосновывается? Тем, что целая система говоров имеется в русском языке, где вместо «а» слышится «о», и этот факт меняет характер правописания. Если посмотреть на это правило с этой точки зрения, кажется оно не действительное с точки зрения произношения, потому что это соответствует произношению только некоторых районов Минской области. А поедешь в Могилевщину, — там вы найдете разницу в произношении. Значит, эти говоры — это то же недействительное. Спрашивается, во имя чего это правило создано?

…[2] оно себя не оправдывает. Надо стать на путь последовательного сохранения корней во всех без исключения случаев. Мы предлагаем выбросить написание «я» перед первым ударением.

Всем известно, что очень тяжелым моментом правописания является написание сложных слов. У нас акающее правописание. Как быть со сложными словами. Сложное слово может состоять из нескольких частей, каждая часть имеет свое ударение, а когда слово из нескольких частей написать вместе, как тут быть с ударением? Учитывать ли ударение первой части в таком слове, как «водавоз», «водазабяспечэнне». Правописание говорит, что нужно учитывать, а когда, этот вопрос очень и очень неясный. И мы не можем сегодня похвалиться, чтобы у нас был кто-нибудь такой, который бы дал ответ на все эти вопросы. Существующее правописание лишает возможности ответить на эти вопросы.

В правописании сказано, если вторая часть не «з'яўляецца скарочаным словам, ці ўжываецца самастойна»[3], тогда учитывается первое ударение. Что такое «скарочанае слова»? Там приведены такие примеры, где можна толковать, скарочаныя і нескарочаныя словы, как угодно. Например, Наркомзем, это как скарочаное слова, а Наркамземаўскі — это какое слово? Или возьмем слова: водавоз, водазабяспечэнне. Скарочаным словам называецца тихое словообразование.

В сложных словах, основная часть которых имеет только один склад, каждая часть пишется с этимологическим гласным. Если было «о», пишется «о». Например: Гортоп, Водовоз. Мы предлагаем с этимологическим гласным писать в тех случаях, где имеются сложные слова, состоящие из одного только слога. Там, где мы имеем больше чем один слог в первом слове, там более ясно слышится ударение и там более ясно видно и чувствуется, где пишется «о», например, золотоздабыча. Мы только делаем исключение для некоторых слов, скажем слово калгас. По этому проекту надо писать колгас. Мы делаем исключение для тех слов, где «а» попало под ударение, где «а» образовалось из «о».

Теперь относительно иностранных слов. Тов. Малин говорил, что с иностранными словами у нас не все в порядке. Мы оставляем в иностранных словах «э», как оно и теперь есть, скажем — рэнесанс, рэабилитировать. Тут мы никаких изменений не вносим.

Изменения мы вносим вот куда. У нас пишут — дырэктар, дылема, дэлегат, дэпутат и т.д. И наши дикторы на радио, будучи честно последовательными правописанию,

